ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА
І СТАНОВІШЧА ПРАВААБАРОНЦАЎ



69-Я ГЕНАСАМБЛЕЯ ААН АБМЯРКУЕ СІТУАЦЫЮ У БЕЛАРУСІ

СТАР. 2

ВЕСНІК ПРАВАБАРОНЧЫ

№ 10 [30] 2014 / 10

«12 РАЗ'ЮШАНЫХ МУЖЧЫН» – КЛАСІКА КІНЕМАТОГРАФА

ПА ПРАВУ ЛІЧЫЦЦА АДНОЙ З ЛЕПШЫХ КАРЦІН СТАГОДДЗЯ



СТАР. 3

БАРАНАВІЦКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

ПРАВААБАРОНЦЫ

# АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ: ПАЗІЦЫЯ ШВЕЦЫІ Ў ДАЧЫНЕННІ ДА БЕЛАРУСІ ЗАСТАНЕЦЦА НЯЗМЕННАЙ

Пад час працоўнага візіту ў Швецыю, старшыня Праваабарончага цэнтра "Вясна" і віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH)Алесь Бяляцкі 23 кастрычніка сустрэўся з міністрам замежных спраў Швецыі Маргот Вальстрэм. Мы звязаліся з праваабаронцам па тэлефоне, каб пачуць з першых вуснаў пра ягоныя ўражанні ад высокай сустрэчы:

"Сёння ў мяне адбылася сустрэча з міністрам замежных спраў Швецыі спадарыняй Маргот Вальстрэм. У прыязнай атмасферы я падзяліўся з ёй сваімі думкамі і назіраннямі пра ўнутраную грамадска-палітычную сітуацыю ў Беларусі. Пад час размовы таксама былі абмеркаваныя некаторыя аспекты, што датычацца беларуска-расейска-украінскіх адносінаў".



Міністр замежных спраў Швецыі Марго Вальстрэм і старшыня ПЦ «Вясна» Алесь Бяляцкі.

Алесь Бяляцкі заклікаў урад Швецыі не мяняць сваю пазіцыю ў адносінах да беларускіх уладаў і папранейшаму патрабаваць вызвалення палітычных зняволеных, а таксама аказваць падтрымку грамадзянскай супольнасці Беларусі.

Маргот Вальстрэм шчыра цікавілася меркаваннямі праваабаронцы пра сённяшнюю сітуацыю ў Беларусі. На завяршэнне сустрэчы палітык падцвердзіла, што пазіцыя Швецыі ў дачыненні да Беларусі будзе нязменнай і прынцыповай.

spring96.org

# ДАЛУЧАЙЦЕСЯ ДА КАМПАНІІ ЗА СВАБОДУ ПАЎЛА ВІНАГРАДАВА!

Актывіст моладзевай арганізацыі «Zмена» зараз знаходзіцца ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў пад 15-суткавым адміністратыўным арыштам паводле пастановы суда Маскоўскага раёна Мінска ад 9 кастрычніка.

Павел Вінаградаў у 2008 годзе быў асуджаны як фігурант так званай "справы 14-ці" за мітынг прадпрымальнікаў, у 2011-м - як фігурант крымінальнай справы аб масавых беспарадках у Мінску 19 снежня 2010 года да чатырох гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. 14 верасня 2011 года актывіста вызвалілі на падставе ўказа прэзідэнта аб памілаванні.

Пасля вызвалення з калоніі Павел Вінаградаў не зменшыў сваю грамадзянскую актыўнасць. Каб трымаць яго на кароткім ланцугу, 10 красавіка 2012 года суд Маскоўскага раёна Мінска вынес рашэнне пра прэвентыўны нагляд за Паўлам Вінаградавым тэрмінам на два гады.

ПЦ "Вясна" зафіксаваў 16 выпадкаў затрымання Паўла Вінаградава пасля вызвалення з калоніі. 15 з іх скончыліся адміністратыўнымі арыштамі тэрмінамі ад 5 да 25 сутак, што сумарна складае 165 сутак – фактычна 5 з паловай месяцаў. 3 іх на бягучы год, уключна з цяперашнім арыштам, выпала 65 сутак зняволення.

Прыклад Паўла Вінаградава — сведчанне рэпрэсіўнасці ў дачыненні да іншадумцаў і прававой несправядлівасці ў беларускай дзяржаве.




Праваабарончы цэнтр "Вясна" заклікае калегаў, сяброў і аднадумцаў далучыцца да кампаніі за свабоду грамадзянскага актывіста Паўла Вінаградава.

Шаноўныя сябры і аднадумцы, падрымайце заклік да спынення адвольных затрыманьняў у Беларусі!

Каб далучыцца да кампаніі:

— зрабіце пост з тэгам #freeVinagradau, сфатаграфуйцеся з партрэтам Паўла Вінаградава (для друку яго можна спампаваць у дадатку) і выкладайце яго ў сацыяльных сетках, а таксама выкажыце сваё меркаванне наконт гэтай праблемы;

— запішыце відэа ў падтрымку Паўла і выкладзіце яго ў сацсеткі з тэгам#freeVinagradau;

— дашліце Паўлу паштоўку салідарнасці ў Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў: 220089 г. Мінск, 1-ы завулак Акрэсціна, 36.

spring96.org

# Баранавіцкі гарвыканкам забараніў пікет, прысвечаны 77-х угодкам "крыштальнай ночы" беларускай культуры



Грамадская актывістка Анжаліка Камбалава 23 кастрычніка атрымала ліст за подпісам намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Дз. Касцюкевіча, у якім паведамляецца, што ўлада не дае згоды на правядзенне пікета, прысвечанага 77-х угодкам "крыштальнай ночы" беларускай культуры. Чыноўнік лічыць, што заяўніца адзіночнага пікету Анжаліка Камбалава парушыла абзац 5 арт. 5 Закона Рэспублікі Беларусь ад 30.12.1997г. № 114-3 "Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь" і п. 4 рашэння гарвыканкама ад 16.06.2009г. № 1497 "Аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у горадзе Баранавічы", не заключыўшы дамовы па абслугоўванні пікета з міліцыяй, медыкамі і камунальшчыкамі.

– У ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года супрацоўнікі НКУС расстралялі ў мінскай турме 22 беларускіх пісьменнікаў і больш 80 прадстаўнікоў інтэлігенцыі нашай краіны. Але нашае грамадства мала ведае праўды пра расстрэлы сталінскіх часоў, асабліва моладзь. Таму мы хацелі ўшанаваць памяць нявінна забітых беларускіх дзеячоў культуры ў 1937 годзе, каб такія трагічныя падзеі ў нашай гісторыі больш ніколі не паўтарыліся. Артыкул 33 нашай Канстытуцыі гарантуе грамадзянам свабоду поглядаў, перакананняў і іх свабоднае выказванне, таму я была ўпэўнена, што гарадскія ўлады дазволяць адзіночны пікет, які мае вялікае выхаваўчае значэнне для нашых грамадзян, – паведаміла Анжаліка Камбалава.

Нагадаем, што напрацягу 2013-2014 гг. усе запланаваныя пікеты грамадскіх актывістаў Рыгора Грыка, Сяргея Гоўшы, Вячаслава Болбата, Віктара Сырыцы і Мікалая Чарнавуса Баранавіцкі гарвыканкам таксама забараніў.

Вітусь Свабодскі

## У судовай справе прадпрымальніка Мікалая Чарнавуса суд прыняў бок міліцыі

У судзе Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы 8 кастрычніка адбыўся разгляд зыскавай заявы прадпрымальніка Мікалая Чарнавуса аб абароне гонару і годнасці адносна дзеянняў намесніка начальніка гарадскога аддзела ўнутраных спраў Эльдара Вільчкоўскага. Судовае пасяджэнне вяла суддзя Вольга Апановіч, сакратар суда – Крысціна Гладкіх.

Мікалай Чарнавус прадставіў дакументы з бальніцы і даказваў у судзе, што супрацоўнікі міліцыі адмаўляліся выклікаць хуткую дапамогу, калі яму, інваліду ІІ-ой группы, падчас складвання адміністрацыйнага пратакола стала дрэнна. Ён падкрэсліў, што падпалкоўнік Эльдар Вільчкоўскі ў пісьмовых пярэчаннях ў абласным судзе распаўсюдзіў зневажальныя звесткі, што падчас затрымання ў выніку несанкцыянаванага страйку баранавіцкіх прадпрымальнікаў 2 ліпеня Мікалай Чарнавус сімуляваў пагаршэнне свайго стану здароўя. Таму грамадскі актывіст прасіў прызнаць абразай пісьмовыя пярэчанні ў абласным судзе першага намесніка начальніка ГАУС Э. Вільчкоўскага ў сімуляцыі хваробы падчас затрымання.

На ўсе пытанні Мікалая Чарнавуса супрацоўнікі міліцыі адказвалі, што нічога не ведаюць і не памятаюць, каб затрыманы Чарнавус прасіў выклікаць хуткую дапамогу, а сам падпалкоўнік Эльдар Вільчкоўскі гаварыў вельмі ціха і таксама выглядаў у судзе няўпэўненым.

Але, як паведаміў Мікалай Чарнавус, суддзя Вольга Апановіч паверыла кіраўніку міліцыі Вільчкоўскаму, дарэчы, як і абласныя суддзі, што гіпертанічны крыз з ціскам 250 на 130 можна сімуляваць, і не задаволіла яго зыскавую заяву.

– Баранавіцкі суд традыцыйна вырашае спрэчныя пытанні на карысць дзяржаўных структур. Але я выклікаў у суд намесніка начальніка ГАУС і яшчэ двух высокіх міліцэйскіх чыноўнікаў і прымусіў іх апраўдвацца за свае антыгуманныя дзеянні. Думаю, што ім было вельмі непрыемна гэта рабіць, таму яны ўсе выглядалі такімі няўпэўненымі. Мажліва ў будучым яны будуць больш уважлівымі да просьбаў не толькі інвалідаў, але і здаровых людзей, – пракаментаваў Мікалай Чарнавус.

Вітусь Свабодскі

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# СІТУАЦЫЯ З ПРАВАМІ ЧАЛАВЕКА І СТАНОВІШЧА ПРАВААБАРОНЦАЎ У БЕЛАРУСІ БУДЗЕ АБМЯРКОЎВАЦЦА НА ГЕНАСАМБЛЕІ ААН

У рамках 69-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у Нью-Ёрку 23 кастрычніка будзе прадстаўлены даклад Спецдакладчыка па пытанні аб становішчы праваабаронцаў Мішэля Форста, 28 кастрычніка - даклад Спецдакладчыка па сітуацыі ў Беларусі Міклаша Харашці. Акрамя таго, пройдуць спецыяльныя мерапрыемствы з удзелам праваабаронцаў.

23 кастрычніка, у працяг справаздачы па становішчы праваабаронцаў, адбудзецца паралельнае мерапрыемства з удзелам прадстаўнікоў з Беларусі і Украіны. Нашу краіну прадстаўляе Тацяна Рэвяка (ПЦ «Вясна» і Дом правоў чалавека імя Барыса Звозскава), Украіну - Аляксандра Матвійчук (Цэнтр грамадзянскіх свабодаў і Еўрамайдан SOS) і Вадзім Півавараў (Асацыяцыя ўкраінскіх манітораў захавання правоў чалавека ў дзейнасці праваахоўных органаў). З боку міжнародных арганізацый падтрымку мерапрыемству аказваюць Фонд Дамоў правоў чалавека і Міжнародная Федэрацыя за правы чалавека.

SIDE-EVENT
HUMAN RIGHTS DEFENDERS IN UKRAINE AND BELARUS
October 23rd 2014 5 - 6:30 p.m.
Hotel ONE UN New York, 1 United Nations Plaza
EXPRESS PUBLIC SUPPORT TO HUMAN RIGHTS DEFENDERS
DO NOT CRIMINALISE WORK OF HUMAN RIGHTS DEFENDERS

Як гаворыцца ў анонсе мерапрыемства, хоць Беларусь і Украіна з'яўляюцца суседзямі з агульнай гісторыяй, сітуацыя з правамі чалавека ў гэтых краінах значна адрозніваецца. Іх праваабаронцы сутыкаюцца з рознымі праблемамі, якія, у той жа час, ярка ілюструюць ўсе складанасці праваабаронцай супольнасці ва Усходняй Еўропе. У абедзвюх краінах ёсць актыўная грамадзянская супольнасць, якая ў Беларусі працуе ў асноўным неафіцыйна і дагэтуль цалкам не прызнаная, у адрозненне ад Украіны. Пры гэтым падкрэсліваецца роля праваабаронцаў, якая мае вырашальнае значэнне для развіцця абедзвюх краінаў у кірунку дэмакратызацыі і вяршэнства закона.

Акрэсліваючы круг праблемаў у працы ўкраінскіх і беларускіх праваабаронцаў, арганізатары мерапрыемства адзначаюць наступнае:

«Праваабаронцы ва Украіне аказалі актыўную падтрымку мірным дэманстрантам і фіксавалі парушэнні правоў чалавека падчас Еўрамайдана, у тым ліку прымяненне катаванняў і забойстваў з боку праваахоўных органаў. Сёння грамадзянская супольнасць займае важнейшае месца ў аказанні гуманітарнай дапамогі тым, хто вымушаны бегчы з усходу і поўдня Украіны, асабліва з Крыму, і настойвае на дэмакратычных рэформах ва Украіне, фіксуючы ў той жа час вялізныя парушэнні правоў чалавека на ўсходзе Украіны і ў Крыме.

Беларускія праваабаронцы на працягу многіх гадоў працуюць над рэформамі ў краіне, сутыкаючыся з сістэмнымі і сістэматычнымі парушэннямі іх асноўных правоў на свабоду выказвання меркаванняў, асацыяцыі і мірных сходаў. У іх няма магчымасці даваць ацэнку дзяржаўнай палітыцы незалежна ад самой дзяржавы, а таксама магчымасці абароны правоў ахвяраў парушэнняў правоў чалавека. Як адзначыў Спецыяльны дакладчык па Беларусі ў сваім дакладзе Генеральнай Асамблеі, праваабаронцы сутыкаюцца з крыміналізацыяй іх дзейнасці заканадаўствам і падвяргаюцца пагрозам і ўціску, адвольным затрыманням, уключаючы кароткатэрміновыя затрыманні і доўгатэрміновае адбыванне турэмных заключэнняў, катаванням і жорсткаму абыходжанню, а таксама абмежаванню свабоды перамяшчэння. Становішча уразлівых групаў, такіх як абаронцы правоў ЛГБТ, таксама выклікае непакой».

24 кастрычніка спецыяльнае мерапрыемства праваабаронцаў Украіны і Беларусі з удзелам спецдакладчыка ААН Міклаша Харашці адбудзецца ў Калумбійскім універсітэце Нью-Ёрка.

spring96.org

СЬМЯРОТНАЕ ПАКАРАНЬНЕ

# “12 РАЗ’ЮШАНЫХ МУЖЧЫН” ПРАБЛЕМА СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ ПРАЗ ВОБРАЗЫ КІНО



У Баранавічах 10 кастрычніка ў рамках кампаніі “Несмяротнае пакаранне. Таму што мы людзі” адбыўся прагляд кінастужкі Сідні Люмэта “12 раз’юшаных мужчын” на беларускай мове. Фільм, які з’яўляецца класікай сусветнага кінематографа, мае найвышэйшыя рэйтынгі і прызнаны адной з лепшых судовых драм па версіі Амерыканскага інстытута кінамастацтва і абавязковы для вывучэння ў кінаакадэміях усяго свету, быў прадстаўлены брэсцкім удзельнікам курсаў “Мова Нанова”.

Паводле арганізатараў прагляду, дэманстрацыя гэтай кінастужкі сумесна з кампаніяй “Несмяротнае пакаранне. Таму што мы людзі” нельга лічыць выпадковым. “Несмяротнае пакаранне” - гэта спроба “разбіць” устойлівае моўнае спалучэнне “смяротнае пакаранне” і звярнуць увагу на тое, што астатнія віды пакарання (хай і не звязаныя з пазбаўленнем жыцця) таксама з’яўляюцца вельмі сур’ёзнымі. А што тычыцца выразу “таму што мы людзі”, дык гэта заклік задумацца не пра злачынца, а пра тое, што адбываецца з прыстойным грамадзянінам, калі ў яго краіне ёсць смяротнае пакаранне, як уладкавана правасуддзе і якая роля простых людзей у гэтай сітуацыі.

Менавіта для таго, каб гледачамі быў атрыманы досвед пра тое, што адбываецца са звычайным чалавекам, калі ён усведамляе, што чыніць правасуддзе, быў абраны фільм “12 раз’юшаных мужчын”. Кінастужка прысвечана суду прысяжных, дзе мужчыны не проста галасуюць, а выказваюць свае думкі, узважваюць, спрачаюцца, бяруць на сябе адказнасць - і ў гэты момант ператвараюцца ў грамадзян.

Гледачы змаглі пераканацца, што суддзі часта памыляюцца ў справе смяротнага пакарання, і гэтую жахлівую памылку тады ўжо не выправіць. “12 раз’юшаных мужчын” нас вучыць, што правa чалавека на жыццё – гэта найвышэйшая каштоўнасць, і ніхто не мае права пазбавіць чалавека жыцця, у тым ліку і дзяржава, – паведаміла грамадская актывістка Анжаліка Камбалава.

*Глеб Лушынскі*

# БАРАНАВІЦКІЯ ПРАВААБАРОНЦЫ ПРАЦЯГВАЮЦЬ ПРЫЦЯГВАЦЬ УВАГУ ДА ПРАБЛЕМЫ СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ

У чацвер 9 кастрычніка баранавіцкія праваабаронцы і грамадскія актывісты працягнулі свой удзел у тыдні супраць смяротнага пакарання. Праваабаронца Сяргей Гоўша адзначыў, што Баранавіцкі гарвыканкам традыцыйна не дазваляе праводзіць грамадска-палітычныя акцыі, прысвечаныя як Міжнароднаму дню супраць смяротнага пакарання, так і Міжнароднаму дню правоў чалавека. Таму, каб не губляць час на юрыдычныя працэдуры, грамадскія актывісты не сталі падаваць пісьмовую заяву ў мясцовы гарвыканкам на атрыманне дазволу правесці пікет. Праціўнікі смяротнага пакарання двума групамі хадзілі па горадзе, сустракаліся з людзьмі і раздавалі ім інфармацыйную ўлётку “Чаму мы супраць смяротнага пакарання”. Людзі з задавальненем іх бралі для азнакамлення і ахвотна дыскутавалі па праблеме смяротнага пакарання не толькі ў Беларусі, але і ў свеце. Адначасова грамадскія актывісты расклейвалі на інфармацыйных тумбах каляровыя плакаты з заклікам адмены смяротнага пакарання.




– Нягледзячы на тое, што злачыннасць сёння ў грамадстве не змяншаецца, навокал толькі і гавораць пра вайну ва Украіне, тым не менш, мы імкнуліся пераканаць людзей, што смяротнаму пакаранню не павінна быць месца ў дэмакратычным грамадстве, – адзначыў праваабаронца Сяргей Гоўша.

*Глеб Лушынскі*

## Прайшла акцыя да Міжнароднага дня за годную працу і адпаведны заробак




Баранавіцкія актывісты недзяржаўнага прафсаюза РЭП 5 кастрычніка правялі акцыю, прысвечаную Міжнароднаму дню за годную працу і адпаведны заробак.

– У мінулым годзе Баранавіцкі гарвыканкам забараніў нам правесці масавае мерапрыемства да Міжнароднага дня за годную працу і адпаведны заробак, таму сёння мы проста раздавалі мінакам газеты “Рабочая салідарнасць”, улёткі супраць кантрактнай сістэмы і адначасова віншавалі іх з Міжнародным святам працоўных. Падчас такіх спантанных сустрэч адбывалася гарачая дыскусія найбольш вакол праблемы кантрактнай сістэмы. Нам зразумела, што большасць людзей лічыць кантрактную сістэму несправядлівай з’явай ці называюць яе новым “прыгонным правам” для працоўных Беларусі, – пракаментаваў прафсаюзны актывіст Раман Грышкевіч.

Нагадаем, што з 2008 года па ініцыятыве Міжнароднай канфедэрацыі прафсаюзаў 7 кастрычніка адзначаецца як Сусветны дзень дзеянняў прафзвязаў за годную працу і адпаведны заробак.

Годная праца – высокаэфектыўная праца ў добрых вытворчых, сацыяльна-працоўных і бяспечных умовах пры поўнай занятасці, якія дастаўляюць кожнаму працаўніку задавальненне, магчымасць у поўнай меры выявіць свае здольнасці і майстэрства. Гэта праца з годнай зарплатай і ў годных умовах.

*Вітусь Свабодскі*

## Статкевіча-старэйшага павіншавалі з Днём настаўніка



Баранавіцкія грамадскія актывісты і праваабаронцы 3 кастрычніка наведалі і павіншавалі Статкевіча Віктара Паўлавіча, які 35 гадоў працаваў настаўнікам гісторыі, з прафесійным святам. Нягледзячы на нездавальняючы стан здароўя, Статкевіч-старэйшы гасцінна і зычліва прыняў наведвальнікаў у сваёй кватэры.

– Сёння мы больш абмяркоўвалі не мінулае, а цяперашняе становішча настаўнікаў, шмат гаварылі пра праблемы адукацыі ў Беларусі. Віктар Паўлавіч ужо больш за 20 гадоў не працуе ў школе, але добра ведае, што зараз настаўнікі маюць менш правоў, чым ў яго час. Ён падтрымлівае сувязі з былымі калегамі, таму перакана්ны, што моладзь не хоча працаваць у школе не толькі таму, што настаўнікам мала плацяць за працу, але найперш таму, што ў школе, як і паўсюль ў краіне, няма свабоды, – паведаміў грамадскі актывіст Віктар Сырыца.

Госці, безумоўна, пагаварылі з гаспадаром і пра ліставанне з палітвязнем Мікалаем Статкевічам, пра падзеі ва Украіне, пра нядаўнія пагрозы невядомых асоб ў адрас Віктара Паўлавіча і яго сям'і.

Развіталіся з пажаданнямі здароўя, надзеяй на Бога і добрых людзей.

Вітусь Свабодскі

СВАБОДА МІРНЫХ СХОДАЎ

## ПРАВААБАРОНЦА ДАМОГСЯ ЎНЯСЕННЯ ЗМЕНАЎ У РАШЭННЕ ГАРВЫКАНКАМА АБ МАСАВЫХ МЕРАПРЫЕМСТВАХ

Баранавіцкі гарвыканкам унясе змены ў сваё рашэнне № 1497 ад 16.06.2009г. "Аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у г.Баранавічы". Гэта вынікае з ліста, які атрымаў праваабаронца Сяргей Гоўша з Брэсцкага аблвыканкама за подпісам намесніка старшыні Леаніда Цупрыка. У лісце ад 24.09.2014 года № 04-17/125 паведамляецца, што Брэсцкі аблвыканкам даручыў Баранавіцкаму гарвыканкаму прывесці рашэнне № 1497 у адпаведнасць з Пастановай Савета Міністраў РБ ад 5 сакавіка 2012 года № 207 "Аб зацвярджэнні Палажэння аб парадку арганізацыі ўзаемадзеяння праваахоўных органаў, арганізатараў масавых мерапрыемстваў і прадстаўнікоў грамадскасці, якія выконваюць абавязкі па ахове грамадскага парадку пры правядзенні масавых мерапрыемстваў".

– Заключыць дамову з міліцыяй па ахове грамадскага парадку было практычна немагчыма. Яны зацягвалі час, і гэта было прычынай, па якой гарвыканкам забараняў пікеты, сходы і мітынгі з-за таго, што арганізатары масавага мерапрыемства не мелі дамовы з міліцыяй. Гарадскія ўлады ігнаравалі Пастанову Савета Міністраў ад 05.03.2012г. № 207, якая не патрабуе заключэння дамовы з ГАУС пры арганізацыі масавага мерапрыемства. Згодна гэтай пастановы, выканаўчы камітэт на другі дзень пасля рэгістрацыі заявы на правядзенне масавага мерапрыемства павінен сам прадставіць копію заявы ў праваахоўныя органы, што якраз у Баранавічах і не выконвалася. Таму я прасіў, каб Брэсцкі аблвыканкам абавязаў Баранавіцкі гарвыканкам унесці змены ў рашэнне Баранавіцкага гарвыканкама ў сувязі з прыняццем Пастановы Савета Міністраў і не парушаць ў далейшым правы заяўнікаў масавых мерапрыемстваў, – пракаментаваў парвaабаронца Сяргей Гоўша.



Глеб Лушынскі

АДМІНІСТРАТЫЎНЫ ПЕРАСЬЛЕД

## ПРЭВЕНТЫЎНЫЯ ЗАТРЫМАННІ: ЗАКОН ВЫКАРЫСТОЎВАЕЦЦА АДВОЛЬНА – ДЗЕЛЯ ВЫКАНАННЯ ПАЛІТЫЧНАЙ ЗАМОВЫ

У сераду 15 кастрычніка у Праваабарончым цэнтры "Вясна" адбылася прэс-канферэнцыя, прысвечаная розным аспектам прэвентыўных затрыманняў у Беларусі, дзе былі агучаны адпаведныя заганы ў заканадаўстве, тыповыя злоўжыванні праваахоўнікаў і новыя тэндэнцыі ў святле праблемы.




Гэтай праблемай праваабаронцы займаюцца не адзін год, і яна стала прадметам даследванняў, вынікі якіх былі прадстаўленыя журналістам. Даклад "Адвольныя прэвентыўныя затрыманні актывістаў у Беларусі" – праца сумесная місіі Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) і Праваабарончага цэнтру "Вясна", якая праходзіла ў Беларусі пасля Чэмпіянату свету па хакеі ў чэрвені бягучага года. Увага місіі была сканцэнтраваная на так званых прэвентыўных арыштах, якія аўтары дакладу вызначаюць як адвольныя затрыманні грамадзянаў, без прававых на тое падставаў, напярэдадні важных палітычных ці грамадскіх падзеяў з мэтай ізаляцыі актывістаў для недапушчэння іх удзелу ў публічных вулічных акцыях, стасункаў з міжнароднымі дэлегацыямі ці прэсай, іншых відах палітычнай і грамадзянскай актыўнасці.

spring96.org

**"ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК"** Баранавіцкі інфармацыйны праваабарончы бюлетэнь
**Калі парушаны вашыя правы, маеце пытанні, заўвагі ці прапановы – звяртайцеся.**
Дапамога бясплатная. Нашы кантакты: тэл. 8 029 7220957, e-mail: viasna_bar@tut.by
Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 299 асобнікаў.
Веснік ПРАВАБАРОНЧЫ